# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 46 (664) ГОД XIII 17 ЛІСТАПАДА 1968 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### 1.XII—ПЛЕНУМ ГП

24 кастрычніка Прэзідыум ГП пастанавіў склікаць на дзень 1 снежня пленарнае пасяджэнне, якое абмяркуе заданні для сваёй арганізацыі, вынікаючыя з пастаноў V з'езда ПАРП.

Другім пунктам працы пленума будзе абмяркоўка форм дзейнасці БГКТ у сувязі з адзначэннем 50-ай гадавіны БССР і 25-ай гадавіны народнай Польшчы.

Члены Прэзідыума ГП задумваліся над правядзеннем навуковай сесіі, зместам якой была б наступная тэматыка: 1) дасягненні БССР за 50 год савецкай улады, 2) суадносіны Польшчы і Беларусі ў пасляваенны перыяд, 3) кантакты БГКТ з БССР, 4) праблематыка БССР на старонках «Нівы», 5) удзел беларусаў у станаўленні народнай улады ў Польшчы, 6) грамадскі аванс беларусаў у Народнай Польшчы.

### АКТЫЎ ГАЙНАЎСКАГА АДДЗЕЛА

Нядаўна актыў Гайнаўскага аддзела выязджаў у Ляшукі, Ляўкова, Луку і Альхоўку з дакладамі на тэму тэзісаў ЦК ПАРП на V З'езд.

### У ГДАНЬСКУ

Гурток БГКТ у Гданьску шырока разгортвае культурна-асветную працу. Апошнім часам арганізаваў ён дзве вечарыны. Першая была прысвечана 25-ай гадавіне Войска Польскага, а другая 51-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Згодна з планам працы гуртка, у канцы лістапада адбудзецца там сустрэча з паэтам Алесем Барскім.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

24 лістапада ў 18 гадзін адбудзецца канферэнцыя гарадскога аддзела ў Беластоку, прысвечаная пастановам V з'езда ПАРП і заданням БГКТ.

### ПРАБЛЕМНЫ КУРС

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізуе для членаў і сімпатыкаў БГКТ праблемны курс. Тэматыка яго: 1) пастановы V з'езда ПАРП, 2) палітыка партыі ў нацыянальных справах, 3) 50-ая гадавіна БССР, 4) весткі аб паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны і іншыя. Усе тэмы — гэта цэлыя раздзелы ведаў. Яны дзеляцца на асобныя загалоўкі і падзагалоўкі. На праблемны курс прадбачана 90 гадзін. Распачнецца ён пасля 1 снежня. Фінансуе яго ГП БГКТ і аддзел культуры Прэзідыум Гарадской рады нарадовай у Беластоку.

### ПЕРАД ФІЛЬМАМІ

Кожную нядзелю ў 18 гадзін у памяшканні ГП гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку для членаў і сімпатыкаў БГКТ арганізуе высвятленне савецкіх фільмаў. На іх заўсёды збіраецца шмат людзей. Апошнім часам новы інструктар ГП на гарадскі аддзел Марыся Макаль перад фільмамі праводзіць цікавыя гутаркі. Гарадскі аддзел мае аграмадную бібліятэку. У Беластоку ніводная бібліятэка не мае столькі рускай і беларускай белетрыстыкі. У сувязі з гэтым Марыся Макаль расказвае аб вялікім кніжным фондзе бібліятэкі, у якой знаходзяцца нават вельмі рэдкія кніжкі.

Другой тэмай гутаркі Марысі Макаль перад савецкім фільмам была «50-ая гадавіна Камсамолу», а трэцяй — «51-ая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі».



Электрыфікацыя. Фота: У. Паўлючук

## Даўжнікамі не будзем

**(ЗАЎВАГІ САКРАТАРА СТАНІСЛАВА КУДЛЫ АБ НАЙВАЖНЕЙШЫХ ПРАБЛЕМАХ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА).**

Гэтай гутаркі не запісвалі мы ў цішыні кабінета Ваяводскага камітэта партыі. Сакратар Станіслаў Кудла сустрэўся з журналістамі ў сэрцы Белавежскай пушчы. Журналісты прыехалі з многіх гарадоў нашай краіны. Яны знаёміліся з сельскай гаспадаркай Гайнаўскага павета. Калі іх пабыўка падыходзіла да канца, гаспадары Гайнаўшчыны наладзілі сяброўскую сустрэчу ля вогнішча ў Белавежскай пушчы. Туды прыехаў сакратар.

Журналісты слухалі. Гаварыў Станіслаў Кудла, адказваў на пытанні:

— Не хачу перад вамі хваліцца нашымі беластоцкімі дасягненнямі ў галіне сельскай гаспадаркі і не прашу, каб вы нас хвалілі. Нашы дасягненні, асабліва што датычыць таварнай прадукцыі збожжа, на фоне агульнадзяржаўнай сельскай гаспадаркі не з'яўляюцца яшчэ, на жаль, высокімі. Хачу толькі, каб вы зразумелі нашы намаганні. Праз некалькі год усе сельскагаспадарчыя дзеячы Беластоцкага ваяводства ламалі сабе галовы над тым, каб знайсці нейкі выхад са сляпога вугла, у якім знайшлася наша сялянская гаспадарка. Бо падумайце, што за парадокс: **нізкі ўраджай, бо слабая зямля, слабая зямля, бо дрэнна ўгноена, дрэнна ўгноена, бо мала жывёлы і недахоп грошай на штучныя ўгнаенні, мала жывёлы, бо мала пашы, недахоп грошай, бо мала жывёлы, мала пашы, бо нізкі ўраджай, нізкі ўраджай, бо...** — і зноў ад пачатку кругам можна паўтараць гэты кругаварот прычын і паслядоўнасцей. Неабходна было недзе разарваць гэты зачараваны круг. Пасля шматлікіх прымерак і абмяркоўванняў дайшлі мы да вываду, што пры нашых умовах найлепшым клінам, які паспяхова разарве гэты замкнуты круг, будзе меліярацыя. Значыць, трэба было пачаць наступленне ў гэтым пункце круга, дзе віднеў сігнал: **«мала пашы»**. Меркавалі так: **меліярацыя і інтэнсіўнае ўгнойванне загаспадараваных сенажацяў штучнымі ўгнаеннямі несумненна выкліча развіццё жывёлагадоўлі, ад большай колькасці жывёлы гаспадары атрымаюць больш гною, які неабходны на слабой зямлі. Большая колькасць гною спрые росту ўраджаю.** І такім чынам спадзяваліся мы дайсці да найважнейшага — да павышэння прадукцыі збожжа.

Хацеў бы, каб вы прадставілі сабе тыповы краявід беластоцкіх зямельных угоддзяў. Дзесяткамі кіламетраў цягнецца балота, а побач з ім, па-суседску зямля чацвёртага і пятага кла-

**(Працяг на стар. 4)**

### ЛЮДЗІ ПАРТЫІ

Вядома, чалавеку адукаванаму, начытанаму розных кніжак, лягчэй жыць на свеце. Але што зрабіць, калі жыццё так складалася, што не было ні часу, ні магчымасці здабыць сякую-такую адукацыю? Людзей такіх, якія нарадзіліся і раслі ў сумныя часы царызму і санацыі, — у вёсках нашых многа. Жывуць яны часта ціха і спакойна здалёк ад палітычных спраў і падзей.

Сцяпан Анікіюк з вёскі Камень у Гайнаўскім павеце да такіх не належыць. Недахоп кніжных ведаў не перашкаджае гэтаму гаспадару ў актыўным палітычным заангажаванні. Пачнем аднак ад пачатку.

Нарадзіўся Сцяпан Анікіюк у 1900 годзе ў тым жа Камені. Убогае дзяцінства ў беднай цёмнай вёсцы, а потым лёс такі самы, як і лёс дзесяткаў тысяч іншых беларусаў: — першая сусветная вайна, бежанства ў Расію, рэвалюцыя. Рэвалюцыя застала Анікіюка ў Расіі 17-гадовым юнаком. У 1919 годзе ўступае ў рады камуністычнай партыі. Працуе рабочым на розных дзяржаўных прадпрыемствах, аддаючы ўсю сваю энергію на службу маладой савецкай дзяржаве.

Кончылася вайна, і ў 1922 годзе Анікіюк вярнуўся ў родную вёску. Не было, як кажуць, за што рукі зачапіць. Гаспадарка знішчаная дашчэнту, забудаванні спаленыя. Трэба было будавацца ды засноўваць гаспадарку зусім нанава. Патрэбны былі грошы. Сцяпан Анікіюк пачынае працу ў лясных прадпрыемствах. Уключаецца ў прафесіянальны рух лясных рабочых.

У 1945 годзе Сцяпан Анікіюк прымаецца за арганізаванне ў сваёй вёсцы партарганізацыі. Засноўваецца такім чынам 6-асабовая арганізацыя ППР. Сяляне выбіраюць Анікіюка солтысам. Былі гэта, як вядома, нялёгкія часы. Нават у Камені былі людзі, якім не падабалася ўмацаванне народнай улады. Прабавалі яны шантажом ды пагрозамі адцягнуць Анікіюка і яго сяб-

## ЗААНГАЖАВАННЕ

роў ад палітычнай дзейнасці. Зразумела, ім гэта не ўдалося.

Сцяпан Анікіюк з'яўляецца зараз радным Грамадскай рады нарадовай у Ласінцы і грамадскім апекуном. Роля яго не зводзіцца аднак да фармальных функцый. Анікіюка ведаюць у павеце як добрага, заўсёды актыўнага дзеяча. Няма ўласціва ў Камені справы ці праблемы, у развязку якой не быў бы актыўна заангажаваны Сцяпан Анікіюк.

Сядзім тады з таварышам Анікіюком у яго хаце і размаўляем аб справах яго вёскі і аб працы сельскагаспадарчага гуртка, аб узрастаючай з года ў год культуры сялян, ды аб іншых менш і больш істотных справах. Таварыш Анікіюк наогул задаволены са сваёй звыш дваццацігадовай дзейнасці ў радах партыі. Кажу «наогул», бо ёсць у працы Сцяпана Анікіюка і яго сяброў пэўны не вельмі аптымістычны момант. Партыйная арганізацыя ў Камені налічвае зараз 6 членаў — толькі сама, што і 23 гады таму назад. Пры тым гэта дакладна тыя ж самыя людзі. Нікога не прыбыло. А за гэтых 23 гады многа людзей у Камені нарадзілася, вырасла і выхавалася. Чаму не ўдалося прышчапіць ім грамадскай і палітычнай актыўнасці, наблізіць іх да партыйнай ідэалогіі і ўключыць у рады партыі? Ці не замала старое пакаленне партыйных дзеячоў звяртала ўвагі на тое, каб выхаваць людзей, якія заменяць іх у іх дзейнасці.

Таварыш Анікіюк прабаваў нават супольна з мясцовай настаўніцай Тамарай Сядоўскай дапамагаць моладзі ў арганізаванні гуртка ЗМВ ды драматычнага гуртка. Мясцовая моладзь не ахвотна аднак пакуль што да грамадскай працы. Вядома, моладзь трэба вучыць грамадскаму заангажаванню, а навука гэтая неаднаразова мусіць быць доўгая ды карпатлівая.

**У. Паўлючук**

 

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ПРЭЗІДЭНТАМ ЗША — Р. НІКСАН

У ЗША закончылася выбарчая кампанія, якой вынікам быў выбар новага, 37-га ў гісторыі ЗША, прэзідэнта. Ад 20 студзеня наступнага года ў Белым доме засядзе новы прэзідэнт, прадстаўнік рэспубліканскай партыі **Р. Ніксан.** Такім чынам закончылася панаванне ў Белым доме не толькі Джонсана, але і дэмакратычнай партыі, якую ён прадстаўляў.

На тэму выбарчай кампаніі ў Злучаных Штатах выпісана шмат чарніла, задрукавана многа старонак газет і журналаў. Сапраўды, у гэтай кампаніі можа нешта знайсці кожны і выклікае яна цікаўнасць не столькі з палітычных розніц змагаючыхся кандыдатаў, колькі з «цыркавай» атмасферы, якая вакол яе вядзецца.

Асноўных палітычных розніц між прадстаўніком дэмакратаў — Хэмфры і рэспубліканцаў — Ніксанам не было і быць не можа таму, што абодва яны з'яўляюцца выражальнікамі і прадстаўнікамі вялікага капіталу. У замежнай палітыцы таксама нельга было ўбачыць штосьці у абодвух кандыдатаў, што магло б задаволіць амерыканцаў. Спыненне бамбардзіровак ДРВ без далейшых крокаў было ўжо «гарчыцай пасля абеда» для Хэмфры.

Друк падае ўсё новыя даныя адносна колькасці галасоў, якія атрымалі Ніксан і Хэмфры. Я карыстаюся данымі з нядзелі (10.XI.), у якіх гаворыцца, што Ніксан атрымаў **30.721** тысячу галасоў, а Хэмфры — **30.534** тысячы галасоў. Былі даныя, у якіх гаварылася, што Хэмфры атрымаў нават больш галасоў ад Ніксана. Можа такіх паправак быць многа, але яны не будуць мець уплыву на факт, хто будзе прэзідэнтам. У ЗША існуе выбарчая ардынацыя, якая прадбачвае, што прэзідэнт выбіраецца ў 2-ступенных агульных выбарах, г.зн., што прэзідэнта выбіраюць таксама выбаршчыкі-электары. І тут Ніксан мае запэўненыя 302 электарскія галасы, калі Хэмфры — толькі 171. Каб растлумачыць гэтую завілую справу выбарчай сістэмы ў ЗША, трэба прысвяціць вельмі многа месца, і таму на гэтым закончым.

### ВАРТА ВЕДАЦЬ

Нядаўна адзначалася 50-годдзе Камсамола. З гэтай нагоды апублікавана многа матэрыялаў аб ВЛКСМ. Першы з'езд гэтай маладзёжнай камуністычнай арганізацыі адбыўся 29 кастрычніка 1918 г. Прыймала ў ім удзел **195** дэлегатаў, а прадстаўлялі яны **22 тысячы** членаў Саюза моладзі. Сённяшні Камсамол згуртоўвае **23 мільёны** членаў.

### АЎТАРЫТЭТ ДЫПЛАМАТЫІ ПНР

Высокі аўтарытэт польскай дыпламатыі на міжнароднай арэне — відавочны. Кіраўнік нашага Міністэрства замежных спраў **Ю. Віневіч** нядаўна выказаўся, што Польшча цешыцца другім аўтарытэтам, калі разыходзіцца аб сацыялістычныя краіны, пасля СССР, ва ўсіх міжнародных справах. А на гэта трэба было заслужыць дасягненнямі ў розных галінах гаспадарчага і палітычнага жыцця.

**А. Кар.**

## БССР

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

У сувязі з чатырнаццатай гадавінай пачатку алжырскай рэвалюцыі на ўрачыстых святкаваннях у Алжыры знаходзілася савецкая дэлегацыя, якую ўзначальваў П. Машэраў, Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі.

Дэлегацыю прыняў Хуары Бумедзьен, Старшыня Рэвалюцыйнага савета Алжырскай Рэспублікі.

### ПІСЬМЕННІКАЎ

Адбыўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Удзельнікі пленума заслухалі даклады: Янкі Брыля **«Жыццё і літаратура»** і В. Барысенкі **«Марксісцка-ленінскае вучэнне аб літаратуры».**

У рабоце пленума ўдзельнічаў С. Пілатовіч, сакратар ЦК КП Беларусі, Р. Кісялёў, намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР, Я. Мазалькоў, старшыня Савета па беларускай літаратуры Саюза пісьменнікаў Савецкага Саюза, і іншыя асабістасці.

### ПЫХЦІН

Вадзім Пыхцін, канструктар новай электроннай вылічальнай машыны **«Мінск—32»** у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды», м. ін., сказаў, што за секунду «Мінск — 32» можа выканаць звыш трыццаці тысяч самых розных і надзвычай складаных аперацый. Гэтыя машыны прызначаны ў першую чаргу для вырашэння навукова-тэхнічных і планава-эканамічных задач, прычым, самых што ні ёсць складаных.

### АЎХІМОВІЧ

М. Аўхімовіч, міністр сацыяльнага забеспячэння БССР змясціў у друку артыкул, з якога даведваемся, што ў сучасны момант каля 1 мільёна 530 тысяч чалавек на Беларусі атрымліваюць пенсіі і дапамогу. У лік пенсіянераў уваходзіць 664 тысячы ветэранаў калгаснай вытворчасці, старых калгаснікаў.

«Асаблівай увагай, беражлівымі адносінамі акружаны ў нас асобы, якія сталі інвалідамі пры абароне Радзімы, — піша міністр Аўхімовіч. — Інвалідам вайны і сем'ям загінуўшых воінаў і партызанаў прадстаўлены 1.864 кватэры. Мясцовыя саветы, калгасы і саўгасы пабудавалі ім 2.960 дамоў і 13.244 дамы адрамантавалі. Больш як сем тысяч чалавек карыстаюцца бясплатна атрыманымі аўтамабілямі «Запарожац» і матакаляскані».

Загаловак артыкула: **«Вышэйшая мэта Савецкай Дзяржавы».**

### НАРОДНЫХ

Пастановай вярхоўных улад Беларускай ССР паэты Максім Танк і Аркадзь Куляшоў атрымалі ганаровыя званні народных паэтаў Беларусі.

### КОНКУРС

У сувязі з 50-годдзем Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі адбыўся конкурс на лепшую беларускую масавую і эстрадную песню. Журы першай узнагароды не прысудзіла. Другую ўзнагароду атрымала песня І. Лучанкі на словы Б. Юдзіна «Стары Сож». Трэція ўзнагароды атрымалі песні: «Радзіма вясенняя» Юркі Семянякі на словы М. Алтухова, «Крэпасць бессмяротнасці» Н. Быкадорава на словы П. Харкава і «Ластаўка» Р. Буцвілоўскага на словы І. Скурко.

**(С.Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### ВЯЛІКАЯ ПАДЗЕЯ

У моманце, калі аддаем да друку гэты нумар «Нівы», працягвае яшчэ сваю работу V З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. З'езд з'яўляецца вялікай падзеяй не толькі ў жыцці партыі, але і ў жыцці ўсяго народа.

V З'езд ПАРП адбываецца ў перыяд надзвычай важных у гісторыі польскага рабочага руху і польскага народа гадавін. Гэта перш за ўсё 50-ая гадавіна ўзнікнення Камуністычнай партыі Польшчы. У міжваенны перыяд была яна адзінай у Польшчы палітычнай сілай, якая стаяла на грунце пралетарскага інтэрнацыяналізму, спалучала інтарэсы рабочага класа з найбольш істотнымі інтарэсамі народа, высоўваючы лозунг гарантыі ўласнай нацыянальнай бяспекі на базе саюза з СССР. Прадаўжальнікам гэтай палітычнай лініі стала пазней Польская рабочая партыя. Выпрацавала яна адзіную слушную думку спалучэння ў адно барацьбы за нацыянальнае вызваленне з пабудовай ладу грамадскай справядлівасці. Палітычная думка польскіх камуністаў і іх барацьба за справядлівыя ідэі прынясла польскаму народу дзяржаву ў справядлівых межах, дзяржаву сацыялістычнага ладу, ствараючую ўмовы ўсебаковага развіцця яе грамадзян.

V З'езд адбываецца таксама ў 50-ую гадавіну ўзнікнення незалежнай польскай дзяржавы пасля 130 гадоў нацыянальнага зняволення. Незалежнасць Польшчы неразрыўна вяжацца з Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Знішчэнне царызму, анулiраванне маладой савецкай уладай дагавораў аб разборы Польшчы і прызнанне Польшчы права да нацыянальнай незалежнасці прычынілася ў асноўнай меры да таго, што доўгая барацьба польскага народа за сваю незалежнасць закончылася перамогай.

V З'езд адбываецца таксама ў 20-ую гадавіну аб'яднання рабочага руху ў Польшчы і ўзнікнення Польскай аб'яднанай рабочай партыі, якая стала прадаўжальнікам рэвалюцыйных традыцый польскага рабочага руху. ПАРП з'яўляецца паслядоўным рэалізатарам асноўнага тэзісу, што незалежная, гаспадарча развітая, з забяспечанымі межамі Польшча можа існаваць толькі ў цесным саюзе з СССР і іншымі сацыялістычнымі краінамі.

Нашая партыя ўнясла вялікі ўклад у справу ўмацавання адзінства сацыялістычных краін і ўсяго міжнароднага рабочага руху. Зыходзячы з асноўнага сцвярджэння, што кансалідацыі сіл міжнароднай буржуазіі сацыялістычны лагер і ўвесь міжнародны рабочы рух павінен супрацьставіць класавую салідарнасць пралетарыяту і інтэрнацыянальную прынцыпіяльнасць у барацьбе з імперыялізмам, ПАРП неаднаразова выяўляла сваё становішча ў гэтых асноўных праблемах. Становішча гэтае азначае імкненне да стварэння сапраўднага адзінства рабочага руху ў барацьбе з імперыялізмам, пры прызнанні права кожнай партыі да фармавання сваёй праграмы на базе агульных, гістарычна спраўджаных прынцыпаў марксізма-ленінізма.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### БЕЛАСТОЧЧЫНА ВІТАЕ V З'ЕЗД

V З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі грамадзяне Беластоцкага ваяводства вітаюць працай грамадскім чынам і прадукцыйнымі абавязацельствамі. Да дня адкрыцця З'езда вартасць выкананай грамадскім чынам працы і прадукцыйных абавязацельстваў склала суму звыш 300 мільёнаў злотых.

### У ГАЙНАЎЦЫ

Рабочыя хімічнай фабрыкі ўжо поўнасцю выканалі свае даз'ездаўскія абавязацельствы. Іх вартасць ацэньваюць на адзін мільён 200 тысяч злотых.

Рабочыя другога буйнага прадпрыемства Гайнаўкі — прадпрыемства драўнiннай прамысловасці — усе да аднаго сталі на з'ездаўскую прадукцыйную вахту. Іх даз'ездаўскія абавязацельствы ацэньваюць на 2,5 мільёнаў злотых. Варта адзначыць, што працаўнікі цэха галоўнага механіка, працуючы дадаткова па 8 гадзін кожны, правялі рамонт станкоў. Дзякуючы гэтаму, прадпрыемства можа выпусціць звышпланавую прадукцыю на 1 мільён 700 тысяч злотых.

### У ЛАСІНЦЫ

Працу грамадскім чынам сялян грамады Ласінка ацэньваюць на 800 тысяч злотых. Дзякуючы гэтаму аж шэсць вёсак атрымае непасрэднае аўтобуснае спалучэнне. Працы грамадскім чынам перш за ўсё канцэнтраваліся на дарогах: Курашава—Тыневічы, Курашава—Ляды, у вёсцы Трывежа, Трывежа — Катоўка і Катоўка—Лапухоўка. Каб упрыгожыць дарогі, пасаджана 2 тысячы дрэўцаў, а жыхары Ласінкі пабудавалі для сябе пачакальню на аўтобусным прыстанку.

### У НУРЦЫ

Рамонтна-будаўляная спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Нурцы, Сямяціцкага павета, грамадскім чынам абгарадзіла свой панадворак. Вартасць гэтага чыну ацэньваюць на 260 тысяч зл. Пры нагодзе інфармуем, што вартасць даз'ездаўскіх абавязацельстваў усіх гэтага тыпу спулдзельняў Беластоцкага ваяводства ацэньваюць на 1 мільён 400 тысяч злотых.

### У ВАСІЛЬКОВЕ

Тут у падвышанай з'ездаўскай атмасферы працуюць рабочыя воўнаапрацоўчага прадпрыемства. На працягу 10-ці месяцаў выпусцілі яны звыш плана 9 тон ваўнянай асновы і 3,5 тысячы метраў гатовай тканіны. Пры тым значна павысілася якасць васільхоўскага сукна. Прадзільшчыцы Луцыя Тшэцяк, Амэлія Федаровіч, Гэлена Штобрын і іншыя, становячыся на з'ездаўскую вахту, забавязаліся выпусціць дадаткова звыш 2 тон асновы.

### У ДУБРОВЕ БЕЛАСТОЦКАЙ

Дуброўскія настаўнікі ў гонар V З'езда партыі 4 тысячы гадзін працавалі грамадскім чынам, а чын дуброўскіх вучняў аблічваецца на звыш 20 тысяч гадзін працы. Працаўнікі Дуброўскага ГС сабралі і перадалі на пабудову цэнтра здароўя дзіцяці ў Варшаве звыш 2 тысяч злотых. Павятовы камітэт Фронта адзінства народа ў Дуброве дні ад 4 да 15 лістапада аб'явіў «Дэкадай грамадскага чыну ў гонар V З'езда партыі».

(вр)




**Niedziela, 17.XI.**

8.10 Program dnia. 8.15 TV Kurs Rolniczy: ,,Intensywny tucz mięsny". 8.50 ,,Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: ,,Pozdrowienia od przyjaciół" — program TV Czechosłowackiej. 9.50 PKF. 10.00 ,,W starym kinie". 10.55 ,,Genialny plan pułkownika Krafta" — film TVP (,,Stawka większa niż życie"). 11.50 Dziennik. 12.00 ,,Polska Pieśń Ludowa" — występ Zespołu Ludowego z Sieradza. 12.30 Dla młodych widzów: T. Sliwiak — ,,Cytrynowy rower". 13.00 ,,Przemiany". 13.30 ,,Piórkiem i węglem". 14.00 Sprawozdanie sportowe. 15.45 ,,Głód broni" — film (,,Polacy na frontach II Wojny Światowej"). 16.10 ,,Wielka gra". 17.00 ,,Pogadanka o języku" — przed kamerami prof. dr Z. Klemensiewicz. 17.15 ,,Polaków dni powszednie". 17.25 ,,Pasażer do Ankary" — nowela film. franc. 17.55 ,,Klub Sześciu Kontynentów". 18.45 ,,Z krainy Bonn-tonu" — program satyryczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 ,,Wieczorne rozmowy". 20.30 ,,Panienki z międzymiastowej" — film fab. wł. 22.00 ,,Niedziela Sportowa".

**Poniedziałek, 18.XI.**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.50 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam". 17.30 ,,Wieś, kobieta i sport" (,,Na zdrowie"). 17.50 ,,Mistrzowie gimnastyki" — film węg. 18.10 ,,Kino Krótkich Filmów". 18.40 ,,Magazyn Postępu Technicznego". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. F. Zabłocki — ,,Fircyk w zalotach" — komedia. 21.30 ,,Panorama Literacka". 22.00 ,,Kolokwium z pracy". 22.25 Dziennik.

**Wtorek, 19.XI.**

8.00 ,,Pieśń miłości" — film fab. USA. 10.00 Dla szkół (kl. IV) ,,W Tatrach". 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski. S. Witkacy: ,,W starym dworku". 11.30 Przerwa. 12.30 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: ,,Wartość pokarmowa pasz". 13.05 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 i 23.20 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,W ławce i za katedrą". 17.25 ,,Nie tylko dla pań". 17.45 TV Kurier Warszawski. 18.00 ,,Tomasz Mann" — film bibliograficzny. 18.25 ,,Po szóstej". 19.05 ,,10 minut recenzji". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Giełda Piosenki". 20.35 ,,GOP — dzisiaj i jutro". 21.05 ,,Pieśń miłości" — film fab. USA. 23.00 Dziennik.

**Środa, 20.XI.**

9.25 ,,O życie dla Ruth" — film fab. ang. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: ,,Węgiel". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: ,,Rolnictwo w najbliższych latach". 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 Matematyka w szkole — ,,Izometria i jej niezmienniki, symetria osiowa". 15.40 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec". 17.25 ,,Telekram". 17.35 ,,Nałęczowska jesień" — film dok. pol. 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 Koncert WOSPR pod dyr. B. Wodiczki. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Światowid". 20.35 Studio Współczesne: G. Koliński — ,,Dom w małym miasteczku". 21.45 ,,Próby". 22.15 Dziennik. 22.30 PKF.

**Czwartek, 21.XI.**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Język polski: ,,Pod Babią Górą" (,,Nasz dzień powszedni"). 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia: ,,Kopernik — człowiek polskiego Odrodzenia". 11.25 ,,Lecą żurawie" — film fab. radz. 12.50 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem". 18.00 ,,Kursy... i co dalej?". 18.15 ,,Nad Odrą i Bałtykiem". 18.45 ,,Przegląd muzyczny". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Czerwone Zagłębie" — rep. dokument.-historyczny. 20.35 ,,Podwójny nelson" — film TVP (,,Stawka większa niż życie"). 21.35 ,,Refleksje". 22.05 Dziennik.

**Piątek, 22.XI.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: ,,Domowa instalacja elektryczna". 10.25 ,,Podwójny nelson" — film TVP (,,Stawka większa niż życie"). 11.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 Dla szkół. Przysposobienie obronne: ,,Współczesna obrona przed środkami napadu powietrznego" (kl. I licealne). 15.40 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci. 17.10 ,,Telekram". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 ,,Nowiny" — Magazyn Postępu Rolniczego. 18.05 ,,Kronika 50-lecia Kraju Rad" — rok 1926. 18.30 ,,Wielcy znani i nieznani". 19.00 ,,Trzy grosze" — program satyryczny. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Czwarta zmiana". 20.35 Teatr TV. M. Gogol ,,Ożenek". ok. 21.45 ,,Książki o walce". 22.05 Dziennik.

**Sobota, 23.XI.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: ,ZSRR". 10.25 ,,Rodzina Artamonowych (adapt. powieści M. Gorkiego). 11.55 Przerwa. 15.30 Program dnia 15.35 TV Kurs Rolniczy: ,,Skrzyżowanie trzody chlewnej w produkcji towarowej". 16.10 ,,Skok wzwyż" (,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci"). 16.20 Program Tygodnia. 16.40 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,Konkurs pięciu milionów". 17.55 ,,Gawędy wilków morskich". 18.10 ,,Almanach". 18.40 ,,W Wersalu i w Warszawie" (,,Drogi i bezdroża II Rzeczypospolitej"). 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 ,,Monitor". 20.10 ,,Tele-Echo". 21.00 ,,Rewia Polskich Nagrań". 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości Sportowe. 22.25 ,,Osiem i pół" — film fab. wł. (,,Kino Interesujących Filmów).




**Piątek, 15 listopada**

7.30 Dla szkół. 8.05 Dziennik. 8.15 Dla dzieci. 8.30 ,,Kłos". 9.00 TV film muzyczny. 15.15 ,,Nowiny". 15.25 Program dnia. 15.30 ,,Ekonomika i życie". 16.00 Dla przedszkolaków. 16.30 ,,Pisarze białoruscy". P. Browka. 17.00 ,,5+2". 17.30 Zakończenie dni Grodzieńszczyzny w Mińsku. Koncert. 20.10 ,,Białoruś na arenie międzynarodowej". 20.30 K. Staniukowicz. ,,Poranek". Spektakl TV. 21.15 Dziennik. 21.30 ,,Na dobranoc".

**Sobota, 16 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka, 7.45 Dziennik. 8.00 Program muzyczny. 8.30 ,,W eterze ,,Młodość". 9.00 ,,Radząc się z Leninem". 9.30 ,,Zdrowie". 10.00 Artystka Ludowa BSRR A. Klimowa. 10.45 Atlas TV narodów ZSRR. Azerbejdżan. 11.45 ,,Historia jednego życia". 12.15 TV film fabularny dla dzieci. 14.00 ,,Świat socjalizmu". 14.30 TV barwna. 17.00 ,,Klub korzystnych spotkań". 17.40 ,,Poranek". Opera TV G. Wagnera. 18.30 ,,Czas". 19.00 ,,Jubileusz mistrza". K. Pietrow-Wodkin. 19.15 ,,Kolumb — 64". Film fabularny. III seria. 20.25 ,,W eterze ,,Młodość". 21.25 Dziennik.

**,,Niedziela, 17 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 ,,Budzik". 8.00 ,,Dla was, kobiety". 8.30 Dla młodzieży. 9.30 Koncert życzeń. 10.20 Film animowany dla dzieci. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 Opera ,,Czerwony Kapturek". 13.00 Dla uczniów. 13.30 ,,Kiosk muzyczny". 14.00 ,,Białe i czarne". 14.30 ,,Szkatułka muzyczna". 14.40 ,,Człowiek ziemi mojej". 15.00 ,,Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1928". 15.30 ,,O wzrastającej roli Rad terenowych". 17.00 Turgieniew. ,,Stepowy król Lir". Spektal TV. 18.30 ,,Siedem dni". 19.15 ,,Kolumb-64". Film. IV seria. 20.35 ,,W eterze ,,Młodość". 21.20 Dziennik.



 






# АЛЕСЬ БАЖКО

**Алесю Бажко 22 кастрычніка г.г. споўнілася 50 год. Сын беднага селяніна з Гродзеншчыны (в. Даўгінава, Карэліцкі раён), ён скончыў польскую сямігодку, потым вучыўся ў Навагрудскім музычным інстытуце імя С. Манюшкі і ў варшаўскай кансерваторыі. У 1955 г. скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Аўтар некалькіх аповесцей, паэм і паэтычных зборнікаў. Сёння змяшчаем урывак з яго аповесці «Перад верасием».**

# • ДАЎГІ НОВЫЯ •

Гэта пачалося тады, калі наша вёска называлася не Даўгінава, а проста Даўгі.

Непадалёк ад вёскі з даўніх часоў стаіць вялікі маёнтак Граева. Пан Крукоўскі, як гаспадар, разам з усімі багаццямі атрымаў у спадчыну ад сваіх яснавяльможных продкаў адвечную нянавісць да мужыкоў. Пры Аляксандру — «вызваліцелю», калі быў абвешчаны маніфест аб скасаванні прыгону, Крукоўскі два разы ездзіў да цара, скардзячыся на непрыемнае суседства — на жыхароў жабрацкай вёскі Даўгі, што прытулілася побач з маёнткам. Потым у вёску прыехаў сам станавы. Судовы выканаўца (хоць суда і не было!) зачытаў грамадзе ўказ яго імператарскай вялікасці аб прымусовым перасяленні даўган на два кіламетры далей ад маёнтка, ва ўрочышча Равы. І застагнала вёска, затрашчалі трухлявыя перакладзіны зрубаў, асунуліся на зямлю саламяныя стрэхі... Высока над устрывожаным натоўпам худых, абшарпаных людзей кружыліся сагнаныя з наседжаных месцаў буслы. Адзін з іх некалькі разоў садзіўся на раскрытае гумно, жаласліва клекатаў, потым падняўся зноў і, склаўшы крылы, каменем упаў на дарогу. Людзі ахнулі і закрычалі — смерць бусла не абяцала нічога добрага!.. Узброіўшыся каламі, мужчыны з адчаю кінуліся на станавога. Адчуўшы небяспеку, выканаўца пабег хавацца ў карчму, але карчмар перад самым носам у яго зачыніў дзверы, не забыўшы выпусціць з сенцаў сабак. Ратуючыся ад іх, судовы выканаўца пералез цераз паркан і са страху хацеў зашыцца ў натоўп.

— Куды, паршывец! — ашчацініліся мужыкі. Дасталося б добра прадстаўнікам яго вялікасці, але з маёнтка якраз наскочылі казакі. Апамятаўшыся ад спалоху, судовы выканаўца зноў важна надзьмуўся, а станавы пачырванеў і выхапіў шаблю.

— Рра-зы-ходзьцеся!..

Стрымліваючы гнеў, сяляне разышліся.

Вымаўляючы слова «разышліся», дзед махнуў рукою і неяк ціха, амаль бязгучна, засмяяўся.

— Яны пабаяліся казакоў?

— Пабаяліся! — горка ўсклікнуў стары. — Яны ў той жа дзень пусцілі чырвонага пеўня ў маёнтку. Потым нехта прыкаціў у вёску вялікі камень у знак таго, што ніхто не кранецца з месца. Ды стражнікі, якія неўзабаве зноў наляцелі ў Даўгі, высеклі на гэтым камені крыж, а людзей бізунамі павыганялі з вёскі. А на новым месцы, голубе, жыццё стала яшчэ больш беспрасветным.

І праўда: выціснутая царскім указам на балота, вёска, нібы статак авечак без нагляду, рассыпалася па прыгорках — кожны шукаў, дзе сушэй. Некаторыя прабавалі нават улезці з хатай на Лісіную гару, але грамада не дазволіла там будавацца: гара прызначалася на могілкі. Дзедаў бацька Юрась, тады яшчэ не стары, першы аблюбаваў сабе зацішнае месца. Ён пасадзіў бярозку і паклаў камень. «Гэта будзе апошні капец майго жыцця, — казаў ён суседзям. — Далей нікуды не пайду».

— Твая праўда, Юрась, — згадзіліся суседзі. — Адсюль нас ужо ніхто не пераселіць...

Памалу пачалі пракладваць вуліцу. Ды сіл не хапала, а балота аказалася такое пражорлівае, што што сем год гацілі яго і пяском, і каменнем, а на восьмым, на дзіва ўсім, пахілілася і аб'ехала падкопаная гара, а па вуліцы ўсё яшчэ нельга было праехаць — грузлі калёсы, правальваліся коні.

— Трэба адслужыць абедню і капліцу паставіць, — параіў поп. — У нашым балоце нячыста.

— Вядома, што нячыста, — згадзіўся Юрась. — Раўкі трэба пракапаць і ваду спусціць, вось і будзе чыста.

Той год быў памятны для даўгаўчан: балота пачало чарствець, падсохла і на вуліцы і на полі. Ды не паспела яшчэ саха крануцца шматгадовага перагною балотных траў, як у Даўгах зноў паявіўся станавы. Гэты раз ён прыехаў з аховай і загадаў старасту склікаць людзей. Калі ўся грамада была ў зборы, станавы пачаў:

— Ваш апякун і дабрадзей пан Крукоўскі літасцівы для вас. Пры перасяленні ён перадаў вам у карыстанне ўрочышча Глебаўку, Шчарбінішча, Воўчыя Стругі. На шэсцьдзесят сем'яў восемдзесят дзесяцін зямлі будзе дастаткова. Адносна ўрочышча Равы, дык тут указам яго вялікасці вам дазвалялася толькі будавацца. На якой жа падставе вы паспелі скапаць яго канавамі?

Даўгаўчане панура маўчалі. Урочышча Равы яны лічылі сваёй уласнасцю, як і ўсе іншыя ўрочышчы. За кожнае з іх яны з пакалення ў пакаленне адраблялі паншчыну, плацілі аброкі. Акрамя таго, вось ужо каторы год аддаюць падаткі. Што ж дрэннага ў тым, што яны асушылі сваё балота?

— Вас трэба было б за гэта судзіць, — задыхаючыся крычаў станавы. — Так, так, судзіць! Але пан Крукоўскі, падумаўшы, угаварыў земскую ўправу пакінуць за вамі асушанае ўрочышча. Што, не зусім зразумела? Ваш дабрадзей, кажу я, аддае вам Равы. У знак удзячнасці вы павінны плаціць яму або адрабляць — як хто зможа...

— Значыць, зноў ярмо?..

— Маўчаць! — гаркнуў станавы і, грузка ўваліўшыся ў свой фаэтон, павярнуў да маёнтка. У след за ім падаліся стражнікі.

З таго часу вёска Даўгі стала называцца Даўгі Новыя, а потым назва гэтая паступова перайшла ў Даўгінава.

# НА СТАРОНКАХ „ПОЛЫМЯ"

Кастрычніцкі нумар «Полымя» адкрываецца вершам Уладзіслава Нядзведскага «Юбілей». Прысвечаны ён 10-ай гадавіне Салігорска.

**Зямля, што калісьці мышыныя**
**Ведала толькі норы,**
**У нетрах сваіх з машынамі**
**Сягоння няспынна гаворыць.**

Так славіць паэт адноўлены палескі край.

На творчасць Аляксея Пысіна мы не раз звярталі ўвагу. Прыхільнікам таленту гэтага цікавага беларускага лірыка «Полымя» дае падборку яго новых вершаў пра час, праміналне, трывогу і прыгажосць.

Вялікай тэме Леніна і чалавечнасці прысвечаны новыя вершы Кастуся Кірэенкі. Асабліва цікавы цыкл «Летняя рапсодыя», напісаны ў народным стылі.

Пра загінуўшых партызан і іх сем'і, пра балючыя страты і тугу піша ў вершы «Дзень нараджэння» Алесь Камароўскі. Асабліва рэкамендуем яго настаўнікам. Паэтам варта задумацца над вершам Хведара Жычкі «Маладым дэгераізатарам», а аматарам мовы — над «Лінкосам» Генадзя Тумаса. Да паэтаў звяртаецца і Юрась Свірка ў вершы «Паэзія». Яго заклік:

**Паэзія, — глыбей у музыку:**
**Там і збавенне і прастор.**

З прозы асаблівай увагі заслугоўвае аповесць Алены Васілевіч «Новы свет». Пісьменніца зглыбляе вельмі блізкі нам свет: цягу маладых вяскоўцаў да гарадскога жыцця. Гэты новы свет ідзе адкрываць няўпэўненая і баязлівая маладзенькая Танька. Перад намі жывая біяграфія савецкіх вяскоўцаў 30-х гадоў. Яна вельмі сыходзіцца з біяграфіяй нашых цяперашніх «саракагодкаў».

Падобную тэму, толькі з іншага боку, распрацоўвае ў апавяданні «Чужое селішча» Аркадзь Марціновіч. Малады Петрык кідае вёску і асядае ў Салігорску. Адзінокая маці пастанавіла ўгаварыць сына вярнуцца дамоў. Едзе. Перад намі перасоўваецца ўсё яе нялёгкае жыццё. Вось яна і ў свайго Петрыка. Загаварыла пра селішча бацькоўскае. «А мне і тут добра», — адказвае сын. «Але ж хіба не лепей было б дома, у роднай хаце? — думае маці. — Чаму ж гэта ён такі выгадаваўся? Чаму адвярнуўся ад зямелькі? Няўжо ты, Петрык, — пытаецца маці, — не ўважаеш на тое, што старая маці недзе там адна бядуе-кукуе?..» «Скора, — кажа сын, — мне дадуць кватэру, тады і цябе перавязу сюды...» «Анютка нават і не падумала, як гэта яна кіне сваю хату і паедзе бог ведае куды ў нейкую там кватэру...» Не можа зразумець сына, вяртаецца дамоў з невясёлымі думкамі.

Тэме адзінокай жанчыны (толькі з аптымістычным заканчэннем) прысвячае Аркадзь Марціновіч і другое апавяданне «Альтанка на палянцы». Сакавітыя колеры, тэмпераментная карціна.

У нас Петруся Броўку пераважна ведаюць як паэта. Апошні нумар «Полымя» дае магчымасць нашым чытачам пазнаёміцца і з прозай Петруся Броўкі. Надрукаваны тут тры яго новыя апавяданні: «Пачатак» (станаўленне ў Беларусі савецкай улады), «Зварот з пекла» (вяртанне беларускай сялянкі з Асвенціма) і «Паштавічка» (першае каханне).

У раздзеле «Навука» Сцяпан Майхровіч выступае з цікавым даследваннем пра беларуска-украінскага вучонага і пісьменніка, аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў палемічнай літаратуры канца XVI і XVII стагоддзяў, Мялеція Смятрыцкага. Па сутнасці гэта гісторыя барацьбы праваслаўя з уніятамі. «Пісьменнік зрабіў вялікі ўклад у скарбніцу тагачаснай філалагічнай навукі, народнай асветы і культуры беларускага і ўкраінскага народаў. Ён шмат зрабіў як палітык і таленавіты публіцыст для абароны нацыянальных інтарэсаў беларусаў і ўкраінцаў. І было б несправядліва « пакрыць пылам забыцця» ўсё тое лепшае і прагрэсіўнае, чым так багаты грамадская дзейнасць і літаратурная спадчына выдатнага вучонага-гуманіста і буйнага пісьменніка» — сцвярджае савецкі даследчык.

Раздзел «Мастацтва» прыносіць артыкул Ізідора Нісневіча «Цудадзей народнай музыкі», які расказвае аб беларускім кампазітару — аўтару дзяржаўнага гімна БССР «Мы беларусы» і цудоўнай песні аб бацьку — «Нёмане» — Нестару Сакалоўскім (нар. 9.XI.1902, пам. 16.XI.1950). Між іншым даведваемся, што песня «Ой, Нёман, ой, бацька мой, Нёман...» была забракавана, як няўдалая, журы конкурсу на лепшую песню. Не спадабаліся ні тэкст, ні музыка! Песню вывёў у шырокі свет калгасны хор.

У раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства» друкуецца артыкул Серафіма Андарсюка «Факт, дакумент і праўда жыцця». У ім разглядаюцца мемуары і дакументальна-мастацкія творы, звязаныя з мінулай вайной. Асабліва ўвага звернута на недахопы. Паводле аўтара, галоўныя сярод іх — адсутнасць строгай дакладнасці і паўнаты ахопу падзей і фактаў, няўменне выявіць іх сэнс (у выніку аднабаковага паказу), штучная белетрызацыя дакументальнага матэрыялу, няўменне паглядзець на падзеі мінулага з вышыні сённяшняга гістарычнага вопыту.

У гэтым жа раздзеле варта таксама звярнуць увагу на артыкул Івана Навуменкі «Паэзія працы і прыроды», у якім гаворыцца пра паэтычна-філасофскія вытокі коласаўскай «Новай зямлі» і на нататкі Уладзіміра Калесніка «Перад першай старонкай», у якіх расказваецца пра творчы варштат Янкі Брыля.

Раздзел публіцыстыкі дае артыкул Аляксандра Дзмітрука «Ідэалагічная барацьба — фронт класавай барацьбы», у якім раскрываецца сістэма ідэалагічнай дыверсіі капіталістычных краін супраць СССР і краін сацыялістычнай садружнасці.

Апошні нумар «Полымя» прыносіць нам таксама артыкулы, прысвечаныя беларускай мове, рэцэнзіі новых кніг і абшырны выбар беларускіх народных прыказак і прымавак, сабраных Леанідам Царанковым. Адна з іх: «Не той дужы, хто стрымае коней, а той дужы, хто стрымае сябе». Хачу быць дужым.

**Ювэ**

# ЭТНАГРАФІЯ



**Дом у вёсцы Старое Беразова, Гайнаўскага павета.**
**Фота: Юзэф Рыбінскі**

(Працяг са стар. 1)

# ДАЎЖНІКАМІ НЕ БУДЗЕМ

саў. Такой зямлі ў нас у ваяводстве аж 42,5%. Ды што атрымоўваецца? Гаспадар, які, для прыкладу, мае 5 га балота і 5 га пятакласнай зямлі, трымае толькі адну заморaную карову. І больш не можа, няма ў яго ніякіх на гэта магчымасцей. Дык як яму дапамагчы, як такога гаспадара вывесці з сярэдневякоўя? Рашылі мы, што гэта магчыма толькі шляхам меліярацыі.

—А вынікі? Якія вынікі? — ставіць пытанне адзін варшаўскі журналіст.

— Наш генеральны план, калі так можна сказаць, — гаворыць сакратар, — апраўдаў сябе. Ужо сёння нават тут, у Гайнаўскім павеце, дзе цераспалосіца і слабая зямля найбольш надакучыла гаспадарам, можам знайсці сотні прыкладаў, якія даказваюць, што пасля чатырох—пяці год ад меліярацыі селянін зусім інакш пачынае працаваць і стаецца сапраўдным гаспадаром.

— Гэта ўсё добра, але як у вас з прадукцыяй збожжа на продаж? — умешваецца малады журналіст з багатага Познаньскага ваяводства.

— Ураджаі ў нас, — паясняе Станіслаў Кудла, — высокія ніколі не былі. Самы высокі ўраджай збожжа — 18 цэнтнераў з аднаго гектара — атрымалі мы ў гэтым годзе. Але вас цікавіць таварная прадукцыя. Дык магу сказаць, што ў **мінулым гаспадарчым годзе мы купілі ад нашых хлебаробаў 130 тыс. тон збожжа, у гэтым годзе хочам купіць 165 тысяч тон, а на 1970 год плануем ужо аж 300 тысяч тон.** Такі тэмп магчымы толькі пры высокім прымяненні штучных угнаенняў і пры інтэнсіўнай меліярацыі. Гэта на працягу адносна нядоўгага часу дазволіць стаць нашаму ваяводству высокатаварным ваяводствам па прадукцыі збожжа. На гэта ёсць у нас усе неабходныя магчымасці. Сярэдняя гаспадарка на Беласточчыне налічвае не менш васьмі гектараў. На такой плошчы пры высокамеханізаванай апрацоўцы зямлі можна ўжо шмат збожжа адкласці на продаж. І яшчэ адно: 3—4 гады таму назад беластоцкі селянін зусім не ведаў і не ўжываў прамысловых кармоў. Зараз прадаем іх у год па некалькі дзесяткаў тысяч тон. **Гэта вызваляе дадатковыя збожжавыя запасы на продаж.**

**Ужо цяпер Беласточчына з'яўляецца высокатаварным ваяводствам у вырошчванні многіх сельскагаспадарчых культур. Для прыкладу: ураджай бульбы ў нас на працягу некалькіх апошніх год перавышае сярэднія дзяржаўныя паказальнікі. Купляем мы ад сялян па 300—330 тысяч тон бульбы. Выпярэджваем іншых у свінагадоўлі. У мінулым годзе купілі мы ад беластоцкіх гадоўцаў 120 тон мяса ў жывым тавары. Ураджай сена са змеліяраваных сенажацяў быў у нас таксама вышэйшы ад сярэдняга ў дзяржаве і дасягнуў 60 цэнтнераў з гектара. Маем добрыя ўраджаі тытуню, які вырошчваем на звыш пяці тысячах гектараў. Тут можам пахваліцца 20-цю цэнтнерамі сухога лісця з гектара.**

Дык трэба нам яшчэ некалькі год інтэнсіўнай працы і **мы пачнем аплачваць нашай дзяржаве збожжам і іншымі сельскагаспадарчымі прадуктамі за тыя аграмадныя фінансавыя сродкі,** якія зараз атрымоўваем ад дзяржавы на развіццё нашай сельскай гаспадаркі. **Я перакананы, што беластоцкія сяляне не будуць даўжнікамі ў дзяржавы.**

Запісаў
**Віктар Рудчык**

# 18 САМАХОДАЎ З ПКО

У выніку лясавання ашчадных кніжак ПКО, прэміяваных самаходамі, якое 25 кастрычніка г.г. адбылося ў Варшаве, 18 легкавых аўтамашын прыпала для жыхароў Беластоцкага ваяводства. 10 аўтамашын вылясавалі жыхары горада Беластока, 4 самаходы пайшло ў Ломжу і па 2 самаходы трапілі ў Элк і Сувалкі.

Сярод разлясаваных аўтамашын знаходзяцца: польскія «Сірэна 104» і «Варшава 204», савецкія «Масквіч 408» і нямецкія «Трабант-Комбі 601», «Трабант — Лімузін 601» і «Вартбург-Стандарт 353».

Дагэтуль ашчадныя жыхары Беластоцкага ваяводства ў якасці прэміі атрымалі ад ПКО ўжо 152 самаходы.

Прыпамінаем, што каб прыняць удзел у лясаванні самаходаў, неабходна пастаянна мець на спецыяльнай ашчаднай кніжцы прынамсі 6 тысяч злотых.

(вр)

**УВАГА, САКОЛЬСКІ ПАВЕТ!**

# У БЕЛЬСКІХ КНІГАРНЯХ

Цяпер у Бельску дзве кнігарні — адна з іх займаецца гандлем толькі савецкімі выданнямі. Апрача багатага выбару кніжак і падручнікаў прыемна ўражвае чысціня, лад і ветлівасць прадаўцоў. І што найважнейшае, **бельскія кнігарні гатовы задаволіць кожную просьбу сваіх кліентаў, нягледзячы на іх месцапражыванне, іншы павет ці нават ваяводства.** Даволі напісаць пісьмо з простым адрасам: кнігарня ў Бельску Падляшскім.

Гэта вельмі істотнае для нашых аматараў беларускай кніжкі, а таксама для вучняў школ з беларускай мовай. Бо бельскія кнігарні маюць багатыя запасы падручнікаў: **«Беларускае слова»** для II, III, V класаў, **«Буквар»**, **«Беларуская мова»** для V—VII, VII—VIII, а таксама I, II, III і IV класаў. Ёсць «Гісторыя БССР» для вучняў сярэдніх школ. Хрэстаматыі: **«Яднае нас дружба»** для VII класа, **«Дружба і праца»** для VIII класа.

Пішу гэта, вядома, з думкай аб вучнях і настаўніках тых школ, якія перажываюць цяжкасці з атрыманнем патрэбных падручнікаў. Асабліва істотнае гэта ў Сакольскім і Сямяціцкім паветах, дзе гэтыя цяжкасці маюць месца ўжо неяк традыцыйна.

У кнігарні савецкай літаратуры, размешчанай у новенькім будынку пры вуліцы Міцкевіча, напаткаў я багаты асартымент закупак беларускіх кніжак, якія зрабіла мясцовая павятовая бібліятэка ў адрас вясковых грамадскіх бібліятэк. Маецца ўражанне (хіба беспамылковае), што бібліятэкі Бельскага павета з'яўляюцца найлепей забяспечанымі беларускай літаратурай — вядома, у адпаведнасці са скромнымі магчымасцямі. Так зладжанай працы ў галіне папулярызацыі беларускай літаратуры, якую праводзяць мясцовая кнігарня і павятовая бібліятэка, я не сустракаў больш нідзе, нават у славутым Гарадку.

З думкай аб кліентах іншых павятовых кнігарняў, у якіх са свечкаю шукаць беларускай кніжкі, падаю спісак цікавейшых беларускіх выданняў, што знаходзяцца ў бельскай кнігарні пры вуліцы Міцкевіча: **«Палескія рабінзоны»** Я. Маўра, **«П'есы для школьнай самадзейнасці»** (розныя кароткія рэчы), **«Брэсцкая крэпасць»** (рэч аб славутай абароне), **«Сатырычны калаўротак»** М. Скрыпкі, **«Апавяданні»** Э. Самуйлёнка, **«Выбраныя творы»** А. Якімовіча, дзіцячага пісьменніка, том прозы Рамана Сабаленкі, **«Зорны камень»** У. Шыціка, фантастычныя апавяданні, **«Новы дом»** А. Чарнышэвіча, **«Тарас на Парнасе»**, народная паэма, **«Салаўі святога Палікара»** Р. Мурашкі, **«Вецер у соснах»** І. Навуменкі, ваенны раман, **«Жоўтая акацыя»** У. Дубоўкі, аповесць для дзяцей, дакументальная аповесць С. Грахоўскага **«Рудабельская рэспубліка»**, **«Вачамі дзяцей»**, цікавы зборнік дзіцячай творчасці, **«Апрацоўкі беларускіх народных песень»**. Ёсць тут таксама: **Зборнік практыкаванняў па сінтаксісу і пунктуацыі»** для VII і VIII класаў і «**Зборнік дыктовак па беларускай мове»** для VII і VIII класаў.

Гэта пералік толькі некаторых выданняў, якія маюцца ў гэтай кнігарні. Кіраўніцтва кнігарні рэгулярна заказвае навінкі беларускай літаратуры.

Асноўным пакупніком беларускай літаратурнай прадукцыі з'яўляецца маладое пакаленне. І гэта натуральная з'ява. Традыцыі навучання беларускай мовы ў нашых школах маюць яшчэ малады век, нямнога больш ад пятнаццацігадовых кліентаў кнігарняў з беларускімі кніжкамі. Таму кіраўніцтва беларускай кнігарні звяртае асаблівую ўвагу на справы імпарту такіх кніжак, якія зацікавяць маладога чытача. Перш за ўсё апавяданні, проза.

(С.Я.)

**НАША ПОШТА — ПІШЫЦЕ, АДКАЖАМ**

# ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

Да нашай рэдакцыі наплывае шмат ад Вас пісем. Асабліва многа пішуць людзі маладыя. З рознымі справамі моладзь звяртаецца да улюбёнага імі кутка — «Сэрцайка». «Сэрцайка» спаўняе зусім іншую ролю і таму на многія Вашыя пытанні не адказвала. Каб споўніць Вашыя просьбы і адказаць магчыма на ўсе пытанні, «Ніва» вырашыла аднавіць куток пытанняў і адказаў. Пытанні і адказы будзем друкаваць у кутку «Нашая пошта». Часам могуць быць пытанні вельмі індывідуальнага ці нават інтымнага характару. Тады зможам даць індывідуальны пісьмовы адказ. Але пісьмовы адказ можам даць толькі таму, хто прышле свой адрас.

У адкрываемым намі кутку не будзем падаваць поўнасцю імя і прозвішча пытаемага, а толькі ініцыялы і, магчыма, мясцовасць. Можа быць і так, што аўтар нам падасць сваё прозвішча, але перасцеражэ, каб не друкаваць яго ў «Ніве», што і споўнім. Адкрываючы «Нашу пошту», чакаем Вашых пісем, Чытачы.

**Надзя з Гайнаўшчыны.** Ці вучні, якія мелі чацвёркі па паводзінах у сёмым класе, могуць быць прыняты ў сярэднюю школу? Зараз я вучуся ў восьмым класе, у пасведчанні з сёмага класа ў мяне «чатыры» па паводзінах і не ведаю, ці прыймуць мяне ў школу?

**Адказ.** Чацвёрка (добра) па паводзінах не адбірае правоў уступу ў сярэднія школы. Істотным элементам права ўступу ў сярэднія школы з'яўляецца пасведчанне з пачатковай школы аб заканчэнні гэтай школы. Зразумела, што калі па паводзінах у пасведчанні ў цябе будзе «4», дык ты можаш мець меншыя шанцы, чым тыя, хто мае «5». Аднак пасведчанне з сёмага класа не мае тут вялікага значэння. Пасведчанне з сёмага класа мае толькі тады значэнне, калі вучань не меў у VII і VIII класе ніводнай тройкі, а толькі добрыя (4) і выдатныя (5). У такім выпадку даны вучань можа быць прыняты ў сярэднюю школу без уступных экзаменаў.

**Вучань з Бельскага павета.** Ці пасля заканчэння ліцэя медсясцёр (Ліцэум мэдычнэ пеленгнярства) можна стаць лекарам і ці на гэта патрэбны студыя ці толькі курсы?

**Адказ.** Пасля заканчэння ліцэя медсясцёр і атрымання атэстату сталасці можна паступіць у медыцынскую акадэмію і пасля 6 год студыяў стаць лекарам. Няма ніякіх курсаў, якія б медсясцёр рыхтавалі на будучых лекараў. Адначасова інфармую, што каб у будучыні стаць лекарам, лепш паступіць у агульнаадукацыйны ліцэй, дзе навука трывае 4 гады (у медліцэі — 5), і пасля яго заканчэння паступіць у медыцынскую акадэмію.

Ваш Дарадчык

P.S Пішыце да нас на адрас:
Redakcja „Niwa" Białystok,
ul. Wesołowskiego 1. «Дарадчык».

**50-ГОДДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ** (2)

# Гаспадарчыя рэформы

7 лістапада 1918 г. у Любліне быў утвораны першы ўрад польскай рэспублікі. 10 лістапада Пілсудскі быў выпушчаны з магдэбургскай турмы. На другі дзень Рэгенцыйная Рада ў Кракаве і Дашынскі ў Любліне перадалі яму поўную ўладу. Прэм'ерам новага ўрада стаў Енджэй Марачэўскі. Новы ўрад даверыў Юзэфу Пілсудскаму пасаду Начальніка Дзяржавы.

Утвораная незалежная польская дзяржава была класавай дзяржавай. Яна стаяла на варце інтарэсаў пануючых класаў — буржуазіі і памешчыкаў, яе палітыка ў прынцыпіяльных пунктах была супярэчна з імкненнямі рабочых і сялян. Польская вёска дарэмна чакала радыкальнай сельскагаспадарчай рэформы, а рабочы клас быў вымушаны змагацца за свае элементарныя правы.

Сельскагаспадарчая рэформа, уведзеная пастановай Заканадаўчага Сейма ад дня 10 ліпеня 1919 года, не ліквідавала голаду на зямлю, яна была наскрозь буржуазна - памешчыцкая. Камуністычная фракцыя ў Сейме востра крытыкавала прынцыпы сельскагаспадарчай рэформы і метады яе праводзення. Рэформа ўводзіла толькі частковую змену адносін у сельскай гаспадарцы. Яна заключалася ў выкупе часткі зямлі, якая належала вялікім землеўладальнікам. Выкуп зямлі быў карысны для памешчыкаў: за адзін гектар плацілі вартасць 150 цэнтнераў жыта. Таму не мог купіць яе вясковы бядняк, фальваркавая служба ці масы беспрацоўных. Калі ўжо даходзіла. фактычна да выкупу, найчасцей пакупнікамі былі багатыя сяляне. Толькі перад пагрозай наступлення Чырвонай Арміі ў 1920 годзе Сейм прыняў пастанову аб выкананні сельскагаспадарчай рэформы і выкупе часткі памешчыцкай зямлі за адну трэць рынкавай вартасці. Артыкулы сакавіцкай канстытуцыі, якія прадугледжвалі шырокую парцэляцыю, ніколі не былі ажыццёўлены.

Новая пастанова 1925 года была выгадна для памешчыкаў. Яна прадугледжвала, што на працягу года не можа быць распарцэлявана больш чым 200 тысяч га зямлі. У міжваеннай Польшчы ўсяго разам было распарцэлявана 2.570176 га вялікага землеўладальніцтва, што складала 19% яго маёмасці. Буржуазна-памешчыцкая рэформа падтрымлівала багатых сялян, не выражала набалелых праблем вёскі і не заспакоіла голаду на зямлю, які адчувала бедната. Становішча беззямельных і малазямельных сялян усё больш пагаршалася. Аб гэтым сведчыў паўмільённы лік беднякоў, якія ў 1926—28 гадах пакінулі вёску, шукаючы хлеба ў горкім бадзянні і эміграцыі для заработку.

Польшча, якую разрывалі ўнутраныя супярэчнасці, бунты і пасіўнае супраціўленне нацыянальных меншасцей, з вялікімі цяжкасцямі і павольна выходзіла з пасляваеннай разрухі. З дапамогай замежных пазык польскі ўрад намагаўся пабудаваць новую прамысловасць. Было запланавана некалькі будоўляў: між іншымі быў пабудаваны ўласны порт — Гдыня, была прыведзена ў рух навейшая чыгунка, якая спалучыла Шлёнск з Гдыняй, а найбольшай будоўляй трэба лічыць будову вялікіх прадпрыемстваў у Цэнтральнай прамысловай акрузе (Тарнуў, Пёнкі, Старахавіцэ, Сталёва Воля і г.д.).

Частковая сельскагаспадарчая рэформа і пачатак будаўніцтва прамысловасці давялі на працягу 1923—27 гадоў да малой стабілізацыі ў гаспадарцы. Польшча экспартавала нямала сельскагаспадарчых прадуктаў і драўніны. Да сённяшняга дня існуюць песні аб плытагонах, якія плывуць Віслай, Нёманам і Прыпяццю. Трэба аднак памятаць, што немцы любой цаною стараліся перашкодзіць развіццю нашай краіны. Узяўшы пад увагу, што ў дваццатыя гады польскі экспарт у Германію складаў 43—50%, а імпарт — 34—44%, немцы мелі велізарны ўплыў на нашую гаспадарку. Ад нямецкай гаспадарчай залежнасці Польшча старалася вызваліцца пры дапамозе кантактаў з Францыяй і Англіяй, аднак здзейснілася гэта толькі ў трыццатыя гады.

Гаспадарчае развіццё Польшчы знаходзілася ў залежнасці ад сусветнай гаспадаркі. Малая стабілізацыя дваццатых гадоў закончылася ў 1929 годзе. 1929 — 33 гады характарызуюцца гаспадарчым крызісам, які асабліва моцна адчула Польшча. Крызіс ахапіў

 

Дзесяць апошніх дзён лістапада прысвячаем ўжо другі год кніжцы, якая вучыць. Інакш завем такую кніжку грамадска-палітычнай. Цяжка цяпер сабе ўявіць, і нават немагчыма, сучаснага чалавека, які такой кніжкай не цікавіцца. Ён ідзе ззаду за жыццём, пляцецца, як кажуць, у хвасце здарэнняў і бурлівых нашых дзён. Таму вельмі папулярызуем грамадска-палітычную кніжку. Мы за тое, каб яна была ў кожнай бібліятэцы, у кожным бібліятэчным пункце, каб бібліятэкар падаваў яе чытачу найперш.

«Дні грамадска-палітычнай кніжкі» (ад 20 да 30 лістапада) ў гэтым годзе будуць адбывацца непасрэдна пасля З'езда партыі, і факт гэты мае сваё адлюстраванне ў «Днях».

«Дні» будуць прысвечаны папулярызацыі чытальніцтва кніжкі, брашуры, газеты, увогуле публікацый, якія паглыбляюць нашы веды аб З'ездзе, аб партыі, аб народнай уладзе. Хочам больш даведацца пра нашу гаспадарку, навуку, культуру, пра грамадска-палітычную сітуацыю ў краіне і на свеце.

# ЧАЛАВЕК, СВЕТ, ПАЛІТЫКА

Сёлеташнія «Дні» маюць вельмі вялікія ідэйна-палітычныя вымогі. Заданне гэтае было заложана ў тэзісах да З'езда і яно намечана ў працах самога З'езда. «Дні» прысвячаюцца 50-годдзю незалежнасці Польшчы, 50-годдзю Камуністычнай партыі рабочых Польшчы і 20-годдзю аб'яднання рабочага руху ў Польшчы — інакш кажучы, 20-годдзю Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Чаму вучыць грамадска-палітычная літаратура? Назавем у скарачэнні: заангажаванню, сацыялістычнай і грамадзянскай паставе, патрыятызму і інтэрнацыяналізму. А заданні бібліятэк, дзеячоў? Гэта папулярызацыя:

1) прац класікаў марксізма-ленінізма, дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму і навуковага сацыялізма (тут найважнейшымі з'яўляюцца працы Маркса, Энгельса і Леніна);

2) прац членаў кіраўніцтва нашай партыі;

3) публікацый, якія паказваюць дасягненні народнай улады, ролю рабочага класа і яго партыі, сацыялістычную дэмакратыю, патрыятычнае і інтэрнацыянальнае выхаванне, працу чалавека, этычныя нормы нашага ладу;

4) прац з галіны палітычнай эканоміі, рэвалюцыйных традыцый, польска-савецкай дружбы, прац аб імперыялістычнай агрэсіі і дыверсіі.

вл

---

прамысловасць, сельскую гаспадарку і фінансы. Ён характарызаваўся абніжэннем цэн на сельскагаспадарчыя прадукты, адплывам замежных капіталаў і ўзростам беспрацоўя. Фабрыкі абмежавалі сваю прадукцыю, што яшчэ больш пагоршыла агульнае становішча.

У 1931 годзе лік беспрацоўных дасягнуў паўмільёна, а дапамогай было ахоплена толькі 113 тыс. Цяжкое становішча працоўных мас спрыяла завастрэнню палітычнай барацьбы рабочага класа і радыкалізацыі польскай вёскі.

У абароне прыгнечанага рабочага класа выступала Польская сацыялістычная партыя і дзейнічаючая падпольна Камуністычная партыя Польшчы. Вопыт папярэдніх гадоў паказваў, што пасіўны пратэст не памагаў рабочаму класу, за паляпшэнне лёсу трэба змагацца з капіталістамі. У Дамброўскім басейне, Лодзі і Варшаве пад кіраўніцтвам КПП арганізоўваліся забастоўкі і збіраліся грошы ў дапамогу «Чырвонай Іспаніі». З барацьбой польскага пралетарыяту салідарызаваўся пралетарыят іншых краін. У Францыі выдавалі адозвы і плакаты супраць турмы ў Картуз-Бярозе. У Польшчы сістэматычна выходзілі камуністычныя журналы: «Новы пшэглёнд», «Чэрвоны Штандар», «Громада». Побач з КПП дзейнічаў Камуністычны саюз польскай моладзі. Радыкалізаваліся народны рух і сялянская моладзь.

Л. М.

**Ілюстраваная культурная хроніка**

# Восень 68

Зароілася восень у культурным жыцці Беласточчыны важнымі здарэннямі. Коратка аб іх.

## КОНКУРС САВЕЦКАЙ ПЕСНІ

Адбыўся арганізацыйны сход VIII конкурсу савецкай песні. У гэтым годзе ён будзе праходзіць пад знакам падвойнай 25-ай гадавіны: народнай улады ў нашай краіне і першых груп польска-савецкіх сяброў, якія пачалі сваю дзейнасць чвэрць стагоддзя таму, найперш у Гайнаўцы і ваколіцы. Расце папулярнасць савецкай песні. У мінулым годзе ў VII фестывалі савецкай песні на Беласточчыне палова ўдзельнікаў была людзьмі дарослымі: з фабрык, устаноў, вёсак. Моладзь складала другую палову.

Ваяводскі агляд у гэтым годзе адбудзецца ў Гайнаўцы. Павету, які найлепш падрыхтуе і правядзе ў сябе фестываль, будзе ўручаны кубак VIII фестывалю савецкай песні. Ад гэтага года кубак уводзіцца на будучыню для ўсіх фестываляў савецкай песні.

## ФЕСТЫВАЛЬ ПАЭЗІІ

Ад гэтага года змянілася назва даўнейшага рэцытатарскага конкурсу на фестываль паэзіі. Вядучымі тэмамі сёлеташняга фестывалю будзе паэзія, звязаная з 25-годдзем народнай улады. Ужо створаны і працуе арганізацыйны камітэт фестывалю, старшынёй якога з'яўляецца дырэктар Ваяводскага дома культуры ў Беластоку **Станіслаў Малеўскі.**

## ДНІ САВЕЦКАГА ФІЛЬМА



Яны адкрыліся дасканалым новым савецкім фільмам рэжысёра **Аляксея Зархі** па раману **Льва Талстога** «АннаКарэніна». Моцны гэта фільм, амаль так моцны як сам раман. Галоўную ролю Анны, вялікую ролю, грае ў фільме **Тацяна Самойлава.**

На здымку: **Тацяна Самойлава** і **Васіль Ланавой** (Вронскі)

## У ТЭАТРЫ ВЯНГЕРКІ



...ідзе п'еса **Іва Жамяка** «Пункт Ц». Рэжысёр **Збігнеў Мак,** сцэнаграфія — **Рышард Кузышын.** На здымку: (злева) **Данута Рымарская** і **Карына Васькевіч.**

# З жыцця ліцэя

Дзень 1.X. 68 года. Калідор бельскага беларускага ліцэя выглядае па-святочнаму. Сцяна да настаўніцкага пакоя ўпрыгожана дыванамі з народнымі ўзорамі. На іх красуе напіс «Добро пожаловать». Паабапал партрэт Леніна і вялікая кветка. Прэзідыяльны стол засланы народным абрусам. Вакол стаяць мяккія крэслы. Перад адным з іх мікрафон. На сцяне лозунг «Няхай жыве польска-савецкая дружба», напісаны на рускай і польскай мовах. Зала перапоўнена. Раздаюцца гучныя апладысменты. Уваходзіць прадстаўнік Акадэміі навук СССР праф Ленінградскага універсітэта Алла Дзмітрыеўна Красныкова. Усе заціхаюць. Уступнае слова вядзе дырэктар ліцэя мгр Мікалай Гайдук. Ён расказвае аб вялікіх дасягненнях савецкай навукі, яе значэнні для сацыялістычных краін, знаёміць з госцем. Пасля прамовы дырэктара вучні ўручаюць ёй кветкі і падарунак ад імя школы. Госця шчыра дзякуе і пачынае свой даклад. Яна шырока расказвае аб дзейнасці Уладзіміра Ільіча Леніна ў час ад 25 кастрычніка 1917 года да студзеня 1918 года, г.зн. да III з'езда Саветаў. Гаварыла аб Ільічу не толькі як аб кіраўніку партыі, але таксама як аб простым чалавеку. Многа эпізодаў з жыцця Леніна было новых і невядомых вучням дагэтуль. Прафесар Алла Дзмітрыеўна Красныкова пры развітанні пажадала, каб вучні бралі ў сваім жыцці прыклад з Ільіча і абяцала перадаць прывітанне студэнтам з Ленінграда.

Трэба сказаць, што не ўсе школы могуць ганарыцца дакладамі замежных навуковых прадстаўнікоў.

*

14 кастрычніка ў XI класах Бельскага беларускага ліцэя быў даклад прэзэса павятовага суда ў Бельску. Гэты даклад быў звязаны з «Сямейным кодэксам» і аб злачыннасці сярод нялетніх. За два ўрокі вучні многа даведаліся, таму што даклад меў форму павучальную. Слухачы даведаліся, што злачынствы з'яўляюцца грамадскаю бядою, якую цяжка зліквідаваць. Вялікі ўплыў на злачынствы малалетніх маюць дрэнныя матэрыяльныя ўмовы, і алкагалізм. Вялікая тут роля бацькоў, якія ўмела павінны выхоўваць сваіх дзяцей.

*

Пасля ўрокаў 14.X. 68 г. адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 25-ай гадавіне ўтварэння Войска Польскага. Даклад на гэтую тэму чытаў вучань Магрук. На мастацкую частку склаліся вершы, песні і адна сцэнка. Акадэмія адбылася пад кіраўніцтвам настаўніка М. Бачынскага.

Кожны тыдзень у ліцэі адбываецца агляд друку. Прыгатаўляюць яго вучні XI класаў. Дакладваюць дзве асобы, адна прадстаўляе апошнія падзеі ў краіне, а другая — на свеце. Гэтыя інфармацыі аб падзеях у краіне і на свеце, хаця даволі кароткія, бо 10-мінутныя, аднак прыносяць многа карысці. Яны заахвочваюць вучняў да зацікаўлення тымі ці іншымі праблемамі, якія былі закрануты нашым друкам.

**Вераніка Леанюк**

Бельскі ліцэй

# Рэвізіт журналістаў у Леўках

Нядаўна «Ніва» пісала аб наведанні рэдакцыі вучнямі старэйшых класаў пачатковай школы ў Леўках. 11 кастрычніка г.г. па запрашэнню гарцэраў з Левак іх школу наведалі журналісты рэдакцыі **«Ніва» Ул. Паўлючук і А. Карпюк,** а таксама журналіст **«Газеты беластоцкай» З. Насядка.**

Рэд З. Насядка сустрэўся з вучнямі і расказаў ім аб гісторыі друку, ілюструючы сучасную друкарскую тэхніку прывезенымі з сабой нагляднымі дапаможнікамі. Пазней гарцэры запрасілі гасцей на камінэк прысвечаны 25-годдзю народнага Войска Польскага.

На ўрачыстасць прыбыў **маёр Мікалай Астапчук.** Расказаў ён аб утварэнні Народнага Войска Польскага, якое першы свой бой мела на беларускай зямлі пад Леніна. Не менш цікавым для дзяцей быў расказ аб шляху маёра М. Астапчука да ваеннага мундзіра. Паступіў ён добраахвотна ў армію, маючы няпоўных 16 год. На вайне не прыйшлося пабываць, але пасляваенны перыяд таксама не быў спакойны, так што «пораху давялося нанюхацца».

Урэшце пачаліся супольныя спевы. Спявалі дзеці, спявалі прыбыўшыя госці: журналісты, а таксама камендант бельскага гуфца ЗГП Я. Пясчынскі і падінспектар школьны В. Фалькоўскі. Асабліва цікавым аказаўся рэд. З. Насядка. Правёў ён гутарку з дзецьмі аб ваеннай песні, аб савецкім паэце і спеваку Б. Акуджава, а потым выканаў некалькі яго песень.

Сардэчная гэта была сустрэча і знаёмства з леўкаўскай школай. Мяркуем, што гэта толькі пачатак поўнага знаёмства. «Ніва» і «Зорка» чакаюць ад вучняў пісем і звестак з жыцця школы, дружыны, вёскі, гуртка. (К)



 

